# Іншага выбару няма

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

**падтрымлівае амэрыканская палітыка. Гэтая вера яшчэ падмацоўваецца паасобнымі заявамі амэрыканскіх кангрэсмэнаў і афіцыйных урадавых колаў, якія падтрымліваюць гэтыя элемэнты ў іхным змаганьні супраць Савецкага Саюзу цераз падзел яго на незалежныя дзяржавы».** У далейшым сп. Дон Левін гаворыць, што такая палітыка дала шмат гаручага матарыялу для савецкай прапаганды. Ён цьвердзіць, што расейскае насельніцтва будзе перакананае, што Захад не зацікаўлены ў вызваленьні расейскага народу, і таму гэты народ прыдушыць у сабе нянавісьць да рэжыму і ўзбудзіць у сабе нацыянальную гордасьць і патрыятызм.

Як бачым, пазыцыя сп. Дон Левіна, які ў свой час меў бадай што вырашальны голас у сонраўскіх справах, а сяньня зьяўляецца ён і надалей адным з найбольш уплывовых у палітыцы Амэрыканскага Камітэту, падобна як і сп. Ляёнса і адмірала Кэрка, нічым ня розьніцца ад пазыцыі расейскіх адзінанедзялімцаў, а ягоная аргумэнтацыя за захаваньне гэтае пазыцыі жыўцом ад гэтых апошніх запазычаная. Гэткае палітычнае крэдо сп. Дон Левіна, якому Расейцы, а за імі й некаторыя Амэрыканцы, у свой час рабілі закіды, што ён спэцыяльна фаварызаваў г. зв. «нацыяналаў» на шкоду Расейцаў, паказвае, што ані ён, ані многія яму падобныя, не маглі здабыцца на патрэбную бесстароннасьць і аб'ектыўнасьць у паглядах на нацыянальную праблему падсавецкіх народаў. Калі-ж сп. Дон Левін і рабіў часамі, хоць вельмі рэдка, уражаньне, што ён бароніць нацыянальныя правы нерасейскіх народаў, дык гэта было тады няшчырым і чыста тактычным, а ня прынцыповым ходам.

У жнівені леташняга году адмірал Кэрк быў звольнены із становішча старшыні Амэрыканскага Камітэту, а на ягонае месца прыйшоў віцэадмірал Лесьлі Стывэнс, які зьяўляецца на гэтым становішчы і сяньня. Новы старшыня быў наважаны прадаўжаць палітычную лінію абодвых сваіх папярэднікаў. Аб гэтым сьветчыла беззасьцярожная пазытыўная ацэна Амэрыканскім Камітэтам парадаксальнага ў сваіх праграмовых прынцыпах КЦАБ-у, які прыйшоў на зьмену СОНР-у ў кастрычніку мінулага году. Гэтак у «Паведамленьні Амэрыканскага Камітэту» з 31 кастрычніка 1952 г., падпісаным адміралам Стывэнсам, гаварылася: **«Праграма новага Каардынацыйнага Цэнтру, на думку Амэрыканскага Камітэту, поўнасьцю адказвае практычным патрэбам вызвольнага змаганьня; яна ствярае тыя рамкі, у якіх усе, што шчыра імкнуцца да супрацоўніцтва, могуць знайсьці аснову для дружнай супольнай працы».** А далей пісалася: **«Прынятая плятформа адкрывае дзьверы для многіх другіх прадстаўнікоў эміграцыйных арганізацыяў розных палітычных кірункаў і ня ставіць ніякіх перашкодаў для прылучэньня да яе як расейскіх, гэтак і нацыянальных групаў, якія згаджаюцца на прынцып самавызначэньня без прадрашэнства».**

Гэтае захапленьне Амэрыканскага Камітэту КЦАБ-ам хутка, аднак, астыла, калі жыцьцёвая практыка паказла, што ягоная плятформа, якая, на думку Амэрыканскага Камітэту, мела «адчыніць дзьверы для многіх другіх прадстаўнікоў эміграцыйных арганізацыяў» і «ня ставіла перашкодаў для прылучэньня да яе як расейскіх, гэтак і нацыянальных групаў», у запраўднасьці дзьверы гэтыя шчыльна зачыняла. Амэрыканскі Камітэт пераканаўся, што прыцягнуць да КЦАБ-у аўтарытэтных нацыянальных прадстаўніцтваў нерасейскіх народаў ня ўдасца. Ён пабачыў загрозу, што некаторыя нерасейскія арганізацыі, якія прыступілі да КЦАБ-у ў надзеі, што ўсё-ж такі нешта удасца выйграць для сваей нацыянальнай справы, могуць зь яго выйсьці, што было-б канчальным развалам гэтага ненатуральнага твору. Каб ратаваць сытуацыю, Амэрыканскі Камітэт пачаў бліжэй прыглядацца й шукаць прычынаў сваей няўдачы. Агульна ведама, што адмірал Стывэнс, які ў сакавіку сёлета прыехаў быў у Мюнхэн, каб вывучыць справу на месцы, ня выняс задаваленьня ані з практычнай дзейнасьці самога КЦАБ-у, ані з паводзінаў у ім Расейцаў, што сярод апошніх выклікала было вялікае занепакаеньне. Адначасна паявіліся й першыя канкрэтныя, хоць, праўда, яшчэ дробныя, зьмены ў самым Амэрыканскім Камітэце, якія мелі стварыць уражаньне, што Амэрыканскі Камітэт ідзе на спатканьне некаторым дамаганьням нерасейскіх эміграцыяў. Былі імі пераняссеньне сп. Аляксандра, Амэрыканца расейскага паходжаньня й наважанага абаронька расейскага максімалізму, із становішча дарадніка ўва ўсіх нацыянальных справах эўрапэйскага прадстаўніцтва Амэрыканскага Камітэту на найбольш адпавядаючае яму становішча дарадніка ў справах выключна расейскіх, а таксама зьмена назвы Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі на Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму. 22 сакавіка сёлета нацыянальныя прадстаўніцтвы Азэрбайджану, Армэніі, Беларусі, Грузіі, Паўночнага Каўказу й Украіны падалі адміралу Стывэнсу апрацаваны на канфэрэнцыі гэтых нацыянальных прадстаўніцтваў у Парыжы мэмарыял, у якім было спрэцызавана, на якіх умовах могуць згадзіцца гэтыя нацыянальныя цэнтры пайсьці на супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам у справе стварэньня супольнага антыбальшавіцкага фронту. Зьмест мэмарыялу яшчэ дагэтуль ня быў пададзены да ведама, але не падлягае найменшаму сумліву, што ў ім былі высунутыя дамаганьні, прыняцьце якіх Амэрыканскім Камітэтам адхіліла-б усе перашкоды для ўваходу гэтых нацыянальных прадстаўніцтваў у супольны антыбальшавіцкі цэнтр.

Такім чынам поўнае фіяско дасюлешняй палітыкі Амэрыканскага Камітэту і ўспомнены мэмарыял нацыянальных прадстаўніцтваў нерасейскіх народаў паставілі Камітэт перад выбарам: або задаволіцца карыкатурнай пародыяй такога антыбальшавіцкага цэнтру, якой ёсьць сяньняшні КЦАБ, або грунтоўна зрэвідаваць сваю палітычную лінію ў кірунку пашанаваньня нацыянальных правоў усіх ягоных партнэраў і аднолькава роўнага трактаваньня ўсіх падсавецкіх народаў.

Ня зьбіраемся тут згадываць, якую з гэтых ліній выбярэ Амэрыканскі Камітэт. Хочам толькі зьвярнуць нашую ўвагу, каб кіруючыя дзейнікі Амэрыканскага Камітэту напасьледак зразумелі, што калі ён астанецца пры дасюлешняй сваей палітычнай, выразна прарасейскай лініі, ягоныя высілкі прыцягнуць да КЦАБ-у аўтарытэтныя прадстаўніцтвы нерасейскіх народаў астануцца бязь ніякіх вынікаў зь вялікай шкодай для справы антыбальшавіцкага змаганьня. Да глыбіні душы нас абурае, што ў сваей практычнай дзейнасьці Амэрыканскі Камітэт, аднастаронна займаючы расейскія пазыцыі, разглядаў усякія натуральныя й справядлівыя нацыянальныя імкненьні нерасейскіх народаў, як праявы шавінізму, а вялікадзяржаўніцкую захопніцкую палітыку Расейцаў называў і называе дэмакратычнай. З сумам мусім сьцьвердзіць, што ў шырокіх масах нерасейскіх эміграцыяў, якія моцна зацікаўленыя ў стварэньні супольнага антыбальшавіцкага фронту й старанна сочаць за дзейнасьцю ў гэтым кірунку Амэрыканскага Камітэту, гэты Камітэт, з прычыны дасюлешняй сваей лініі, на жаль, даверу ня мае.

Адмірал Стывэнс, у сувязі із зьменай назвы Амэрыканскага Камітэту, пісаў у прэсавым камунікаце: **«Камітэт думае, што гэтая назва, якую ён цяпер прыняў, адхіліць труднасьці, якія стаялі на шляху для дасягненьня ягонае мэты.»** Назва Камітэту бясспрэчна была аднэй з прынцыповых перашкодаў для нерасейскіх народаў, дыскваліфікавала й абражала іхныя нацыянальныя пачуцьці, але ня была найважнейшай перашкодай і гэтых труднасьцяў яна яшчэ не адхіліць. Тут патрэбная грунтоўная зьмена палітычнага курсу Амэрыканскага Камітэту шляхам выразнае адмовы ад пазыцыяў сп. сп. Ляёнса, адмірала Кэрка і Дон Левіна ў нацыянальным пытаньні й спыненьне падтрымоўваньня й фаварызаваньня імпэрыялістычных захопніцкіх канцэпцыяў Расейцаў. Амэрыканскі Камітэт павінен аднолькава ўшанаваць справядлівыя нацыянальныя правы й імкненьні ўсіх падсавецкіх народаў, як народу расейскага, гэтак і нерасейскіх, ды перастаць уважаць за такія справядлівыя правы Расейцаў іхныя захопніцкія канцэпцыі. Гэта адзіны шлях для здабыцьця даверу да Амэрыканскага Камітэту сярод нерасейскіх эміграцыяў з Савецкага Саюзу й прыцягненьня іх да супольнага антыбальшавіцкага фронту змаганьня. Іншага выбару для Амэрыканскага Камітэту няма і быць ня можа.

**Язэп Каранеўскі**

**БРАТЫ БЕЛАРУСЫ! ЧЫТАЙЦЕ, ВЫПІСВАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ АДЗІНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ТЫДНЁВУЮ ГАЗЭТУ НА ЭМІГРАЦЫІ — «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

*

**ЧЫТАНЬНЕ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» ЗАДАРМА ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ПРАСТУПКАМ!**

# Усьцяж „буржуазны нацыяналізм“

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

У гэткім-жа самым тоне і ў тых самых словах б'е алярм і перадавіца менскай «Зьвязды» за 15 красавіка п. н. «Магутная дружба народаў Савецкага Саюзу», у якой, між іншым, чытаем: **«мы ніколі не павінны забывацца аб тым, што жывём у капіталістычным акружэньні, што ў нашым грамадзтве існуюць яшчэ перажыткі капіталізму ў сьвядомасьці некаторай часткі людзей і што гэтыя перажыткі імкнецца ажыўляць і падтрымліваць варожае капіталістычнае акружэньне, якое ставіць сваей мэтай падарваць магутнасьць нашай дзяржавы, прабуе закідваць да нас шпіёнаў і дывэрсантаў, выкарыстоўваць ідэялягічна няўстойлівых людзей, заражаных нацыяналістычнымі прадрассудкамі, носьбітаў буржуазных паглядаў і буржуазнай маралі, карыерыстых і перараджэнцаў. Вось чаму савецкія людзі ўсюды і ўва ўсім павінны праяўляць высокую палітычную пільнасьць.»**

У далейшым газэта вылічае тыя «дабрадзействы», якія дала беларускаму народу «ленінска-сталінская нацыянальная палітыка», супрацьлежная ідэялёгіі «буржуазнага нацыяналізму», намагаючыся гэтым паглыбіць у чытача пераканаьне, што палітыка гэтая адзіна правільная й для беларускага народу адзіна карысная. Аб гэтым пішацца дaслоўна: **«У выніку перамогі вялікай кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, дзякуючы ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыцы камуністычнай партыі і савецкага ўраду беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасьць. Дзякуючы штодзённай дапамозе камуністычнай партыі і савецкага ўраду, брацкіх народаў Савецкага Саюзу і ў першую чаргу вялікага расейскага народу, працоўныя нашай рэспублікі ператварылі сваю рэспубліку з адсталай ускраіны былай царскай Расеі ў вадну зь перадавых, квітнеючых савецкіх сацыялістычных рэспублік».**

Гэтак, адклікаючыся да нацыянальных пачуцьцяў і патрыятызму беларускага народу бальшавікі вядуць змаганьне зь беларускім нацыяналізмам.

Тая-ж «Зьвязда» за 19 красавіка зьмясьціла вялікі тэарэтычны артыкул Н. Аляксютовіча «Дружба народаў СССР — крыніца сілы й неперамажнасьці савецкай дзяржавы». Пералічыўшы ўсе пазытыўныя дасягненьні, якія прынесла беларускаму народу «ленінска-сталінская нацыянальная палітыка» й «сталінская дружба народаў», аўтар, парафразуючы словы Сталіна, хоць ня ўспамінаючы ягонага прозьвішча, сказаныя ім у ведамым ягоным тосьце ў 1945 годзе, акцэнтуе спэцыяльна перадавую ролю расейскага народу, які шчодра абдарае сваіх «малодшых братоў» аднымі толькі «дабрадзействамі». Ён піша: «**Сярод раўнапраўных, свабодных сацыялістычных нацыяў выдатную ролю адыгрывае вялікая расейская сацыялістычная нацыя. Расейскі народ, які валодае ясным розумам, стойкім характарам і цярпеньнем, зьяўляецца цэмэнтуючай сілай дружбы народаў нашай краіны. На ўсіх этапах разьвіцьця савецкай дзяржавы расейскі народ заслужыў усеагульнае прызнаньне як кіруючай сілы сярод усіх народаў СССР».**

У дакладах і лекцыях савецкіх прапагандыстых і агітатараў тэма аб «дружбе народаў» Савецкага Саюзу й аб савецкай нацыянальнай палітыцы займае апошнім часам найвыдатнейшае месца. Вось адно паведамленьне агенцтва «БЕЛТА» («Зьвязда» за 15. 4. 1953) аб такой прапагандзе толькі ў горадзе Менску: **«На хвабрыках, заводах, у ўстановах і ў навучальных установах Менску адбываюцца лекцыі й даклады аб вялікай ленінска-сталінскай дружбе народаў, аб нацыянальнай палітыцы камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы.**

**Многія вучоныя й партыйныя работнікі выступілі зь лекцыямі на тэмы: „Маральна-палітычнае адзінства і дружба савецкіх народаў“, „Росквіт сацыялістычных нацыяў у СССР“, „Марксіцка-ленінскае вучэньне па нацыянальнаму пытаньню“. Лекцыі праслухалі рабочыя й служачыя трактарнага заводу, друкарні імя Сталіна, хвабрыкі імя Кагановіча і іншых прадпрыемстваў.**

**Менскі гарком партыі распрацаваў тэматыку лекцыяў аб сацыялістычных пераўтварэньнях у брацкіх саюзных рэспубліках, аб жыцьці працоўных краін народнай дэмакратыі, аб рабоце таварыша І. В. Сталіна „Нацыянальнае пытаньне і ленінізм“ і іншыя. Падабраная спэцыяльная група лектараў».**

З усяго гэтага бачым, што ў нерасейскіх саюзных рэспубліках Савецкага Саюзу нацыянальныя імкненьні настолькі цяпер узмоцніліся, што бальшавікі ўважалі навет за патрэбнае распачаць супраць іх спэцыяльную кампанію ды накіраваць усё астрыё сваей прапаганды супраць «буржуазнага нацыяналізму» ды ўзмоцніць прышчэпліваньне ідэялёгіі савецкай «дружбы народаў» і «ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі». Гэтая-ж прапаганда намагаецца пераканаць падсавецкіх людзей, што «буржуазны нацыяналізм» сярод нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу распальвае «капіталістычнае акружэньне» з мэтаю аслабленьня магутнасьці савецкае дзяржавы. У запраўднасьці-ж гэтае «капіталістычнае акружэньне», засьлепленае сваім русафільствам, гэтага нацыяналізму ня толькі не распальвае, але, наадварот, яго прытушвае. Ведаюць добра аб гэтым і бальшавікі. Але яны ў сваей прапагандзе спэцыяльна зьвязваюць насіленьне «буржуазнага нацыяналізму» з уплывамі звонку, каб гэтым самым яго скампрамітаваць і паказаць, што нутранай базы сярод падсавецкіх народаў для яго няма.

Але дарма! Ня гледзячы на жорсткі тэрор, рэпрэсіі й прапагандовую акцыю, нерасейскія народы Савецкага Саюзу, а сярод іх і беларускі народ, ня выракуцца сваей нацыянальна-вызвольнай ідэі і ня прызнаюць у расейскім народзе свайго «старэйшага брата»! Гэтыя нацыянальна-вызвольныя ідэі нерасейскіх народаў зьяўляюцца наймагутнейшай сілай, пад ударамі якой раней ці пазьней разваліцца савецка-расейская турма народаў!

**Алесь Крыга**

**Р. Склют**

# Андрэй Мрый і яго „Запіскі“

Біяграфічныя ведамкі пра аўтара аповесьці «Запіскі Самсона Самасуя» — Андрэя Мрыя — тымчасам могуць быць пададзеныя адно вельмі скупа: запраўднае прозьвішча ягонае — Андрэй Шашалевіч, месца й даты нараджэньня дакладна ўстанавіць сяньня няма магчымасьці — ведама адно, што пісьменьнік нарадзіўся дзесь на Магілеўшчыне (паўдзённа-ўсходняй, хіба — над Сожам, ці блізка яго) ў сям'і кагось із г. зв. «селавой інтэлігенцыі» (даўнейшай) — ці то калішняга «валаснога пісара», ці то, можа, кагось із селавога праваслаўнага клеру (сьвятара ці дзяка); у часе друкаваньня «Запісак Самсона Самусуя», г. зн. у 1929 годзе, аўтару іхнаму на вока было год за трыццаць.

У літаратуру Мрый прыйшоў сьлядамі свайго крыху малодшага брата, Васіля Шашалевіча, пісьменьніка-драматурга, аўтара цэлага сьцягу п'есаў, як «Апраметная» (зьнятая бальшавікамі із сцэны за зыркі нацыяналізм), «Змрок», «Воўчыя ночы», «Сымфонія гневу» й інш., да таго-ж аднаго з заснавальнікаў ведамага беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня «Ўзвышша» (сёстры братоў Шашалевічаў таксама працавалі ў нашым мастацтве, як акторкі). Пад дзеяньнем братавага прыкладу пачаў сваю пісьменьніцкую дзейнасьць і Мрый, дзесь каля 1926—1927 г.г., ад часу да часу зьмяшчаючы свае сатырычныя апавяданьні-навэлі ў тагачасных менскіх беларускіх газэтах («Савецкая Беларусь», «Голас Вёскі», літаратурны дадатак да яе — «Чырвоны Сейбіт» і інш.), а тады і ў часапісе «Ўзвышша» ад першага-ж году ягонага выданьня (г. зн. ад 1927 г.). У гэтым часапісе, перад «Запіскамі Самсона Самасуя», зьявілася пяць сатырычных навэляў Мрыя: «Няпросты чалавек», «Камандзер», «Калектыў Яўмена», «Гармонія ў ружовым» і «Рабін» (першыя чатыры — у 1927 г., апошняя — у 1929 г.).

26-га траўня 1929 г. Мрый быў прыняты сябрам у беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне «Ўзвышша», адным із сяброў-закладнікаў якога, як ужо сказана, быў ягоны брат Васіль Шашалевіч. У гэным часе, і пасьля, пісьменьнік зарабляў сабе на жыцьцё працаю ў якасьці інструктара Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навукаў у Менску.

У часапісе «Ўзвышша» ў 1929 г. і пачалі друкавацца «Запіскі Самсона Самасуя», што канчальна прынесьлі пісьменьніку літаратурнае імя: «першы скрутак» гэтых запісак быў выдрукаваны ў №№ 3 і 4 часапісу за той год, «другі скрутак» — у № 6; адылі, «трэйці скрутак» ужо ня быў прапушчаны бальшавіцкаю цэнзураю; напалоханы гэтым аўтар зьнішчыў усе рукапісы гэнага «скрутку» і зусім адыйшоў ад літаратуры, замоўк. Адылі дармо: хоць і зь некаторым спазьненьнем ды «ў індывідуальным парадку» бальшавікі «зьліквідавалі» нарэшце пісьменьніка зь Беларусі дзесь між 1931—1933 гадамі. Пра далейшую ягоную долю нічога ня ведама.

Мрыева аповесьць напісаная ў літаратурнай форме «запісак» нейкага савецкага «нізавога актывістага» Самсона Самасуя. Актывістых гэткіх тымі часамі афіцыйная савецкая тэрміналёгія звала расейскім, бальшавікамі-ж створаным словам «выдвиженцы», якое пабеларуску афіцыйна-ж перакладалася як «вылучэнцы», а неафіцыйна, гіранічна, ды больш дакладна — як «высуванцы» (паколькі расейскаму «выдвинуть» дакладна адпавядае нашае «высунуць»). Мрыяў гэрой належыць да тае адменнасьці «выдвиженцев», што «выдвигалися» — «вылучаліся» ці «высоўваліся» самыя, не чакаючы, пакуль іх «выдвинет» — «вылучыць» ці «высуне» хтонебудзь зьверху, а таму й зваліся ў грамадзтве «самовыдвиженцами», а ў нас — «самавысуванцамі» — зусім блізка да гэроевага прозьвішча Самасуй, узятага аўтарам із жывое народнае мовы, якая гэткім словам яшчэ задоўга да бальшавікоў абазначала чалавека, што ўсюды «сам сунецца», імкнучыся «высунуцца». Гэткім і выступае ў сваіх «Запісках» Мрыеў Самсон Самасуй. Дармо, што поўпісьменны, ён борзда й добра засвойвае ўсю бальшавіцкую «ідэялёгію», «мараль» і тактыку ды, тэрарызуючы імі ўсіх па дарозе, нахрапна й пераможна «прасоўваецца» із самых нізоў на самыя вярхі савецкае герархіі (не прапушчаны цэнзураю «трэйці скрутак» твору й паказваў Самасуя на гэных вярхох).

Вобраз Самсона Самасуя бліскуча ўдаўся Мрыю, як і вобразы іншых актывістых, функцыянераў ды проста «савецкіх людзёў», што так ці інакш прыходзілі ў сутычнасьць з гэроем «Запісак», траплялі ў поле ягонага зроку ды пад ягонае пяро. У стварэньні гэтых вобразаў пісьменьнік выявіў, можна сказаць, бадай нябывалую датуль (дый пасьля) у нашай літаратуры сілу мастацкае тыпізацыі як псыхалягічнай, гэтак і ў стылістычнай роўніцы. Сыстэма гэтых Мрыевых вобразаў-тыпаў адлюстроўвала сабою вельмі зырка й праўдзіва ўсю савецкую сыстэму ўва ўсей ейнай запраўднай, рэальнай натуры й нагаце. Уся г. зв. «савецкая грамадзкасьць» і бальшавіцкая крытыка былі проста ткі як па галаве стукнутыя Мрыевым творам ды, відавочна, адразу не маглі здаўмецца, як рэагаваць на яго — высокая праўдзівасьць была бясспрэчнай, але тым-жа самым часам і выразна антысавецкай.. Першай агоўталася цэнзура, забараніўшы працяг друкаваньня аповесьці, і адно тады ўжо загаманіла й крытыка. Тагачасная апора й агентура бальшавікоў у нашай літаратуры — г. зв. БелАПП (г. зн. «Беларуская Асацыяцыя Пралетарскіх Пісьменьнікаў») у васобе аднаго зь перадавых сваіх крытыкаў, Міколы Аляхновіча, першая й прызнала, што Мрыевы «Запіскі Самсона Самасуя» — гэта «злосны пашквіль на нашу савецкую рэчаіснасьць. Паказваючы жыцьцё беларускае вёскі, жыцьцё мястэчка, аўтар усіх пэрсанажаў твору ад кіруючай партыйнай верхавіны да звычайных сялян малюе нейкімі недацёпамі, нейкімі дурнямі. Ніводнага мамэнту будаўніцтва новага жыцьця на вёсцы ці ў савецкім мястэчку мы ў гэтым творы ня бачым. Аўтар ня толькі сабраў цёмныя паасобныя мамэнты, што маюць месца ў нашым жыцьці, але ён так згусьціў хварбы, што перад намі ўстае перакрыўленае жыцьцё, пастаўленае дагары нагамі». І белапаўскі крытык выносіць дыскваліфікацыйны прысуд Мрыю, як савецкаму пісьменьніку, адначасна асуджаючы й захоўваньне савецкае крытыкі, што сваячасова ня выявіла належнае «пільнасьці»: «Шаржаваны паказ працы савецкага апарату, усяго нашага жыцьця робіць гэты твор ня толькі нясумяшчальным з ганаровай назвай савецкага пісьменьніка, але зьяўляецца яскравым прыкладам таго, як да апошняга часу нашая крытыка зьвяртала мала ўвагі на шкодныя зьявы ў нашай літаратуры (гл. М. Аляхновіч — «На аванпостах пралетарскае літаратуры» — часапіс «Маладняк», № 6—7 за 1930 г., бал. 195—196). Ад таго часу ўспамінаньне Мрыевых «Запісак Самсона Самасуя» ў ліку выкліканых «варожых», «буржуазных» ці «нацыянал-дэмакратычных твораў беларускай літаратуры» сталася абавязкавым для савецкае крытыкі.

Пэўна-ж, савецкая крытыка, як звычайна, тутака валіла віну із хворае галавы на здаровую і да яе й тут як нельга лепш прысталі-б трапныя словы другога, таксама ўзвышэнскага, сатырыка: «Калі самі няпрыгожы — ня вінуйце апарат». Мрыеў-жа «апарат» толькі добра-мастацка здымаў-фіксаваў тую жывую запраўднасьць, якая сама ўжо была «шаржаваная» ня пісьменьнікам, а ейнымі бальшавіцкімі ператваральнікамі-«будаўнічымі», што й «згушчвалі хварбы» ў ёй ды «перакрыўлялі», «перастаўлялі дагары нагамі» ўсе звычайныя, нармальныя жыцьцёвыя й людзкія дачыненьні. Таму й выйшаў з Мрыевага «апарату» такі забіючы абраз савецкае сыстэмы й ейных гэрояў-«будаўнічых».

Адылі, мастацкая сіла Мрыя, як пісьменьніка, уздыймае ягоны твор вышэй за звычайны, хай сабе й мастацка-дасканалы, абраз свайго часу й быту. Адзначаная ўжо намі сіла мастацкае тыпізацыі ў творы як у псыхалёгічнай, гэтак і ў стылістычнай роўніцы робіць зь яго й ягоных гэрояў-тыпаў нашых нацыянальных адменьнікаў-прадстаўнікоў да тае мастацкае галерэі твораў і вобразаў, што прадстаўленая ў сусьветнай літаратуры цэлым сьцягам агульна-ведамых рэчаў таго-ж роду й тыпу, ад «Запісак Піквіцкага Клюбу» вялікага Ангельца Чарльса Дыкенса да «Прыгодаў добрага ваяка Швэйка» Чэха Яраслава Гашэка. У гэтым — яшчэ большая й найбольшая хіба, ды неперахаджалая вартасьць Мрыевых «Запісак Самсона Самасуя» ды зарука іхнае прыйдучае папулярнасьці ня толькі ў нашым чытацкім грамадзянстве. Балазе,

Г. А. ТАКАЕЎ

# Гэта было у Маскве*)

1935 год увайшоў у свае страшныя правы. Пачалася новая веха ў нашай драматычнай гісторыі.

На падставе распараджэньня Ем. Яраслаўскага мая «справа» была перададзеная армейскаму камісару другой рангі Г. А. Осепяну, які, у сваю чаргу, пераслаў яе з адпаведнай інструкцыяй у Бюро Партыйнай Камісіі Маскоўскай Ваеннай Акругі, што знаходзіцца пры вуліцы Крапоткіна. Хутка яна была перагледжаная яшчэ раз, больш удачна, на гэты раз з устанаўленьнем у партыі. Ня было болей абразьлівых клічак «гэты Такаеў», «белагвардзейскае прыхвосьце», «контррэвалюцыйны рупар», «бухарынскі падкідыш», «сацыял-дэмакратычны адпадак», «вораг народу» і інш., але за гэта ў маю асабістую справу было запісана 1) суровы выгавар з апошнім папярэджаньнем і 2) вельмі істотны напамінак аб усім папярэднім.

Мая справа не прадстаўляла спэцыяльнага выключэньня. Я быў толькі адным із тысячаў, магчыма дзесяткаў тысячаў. Сытуацыя ў сталічных арганізацыях, асабліва ў Ваенных Акадэміях, давала тысячы доказаў найвышшага пункту псыхалягічнага й палітычнага напружаньня. Гэта былі месяцы незраўнаважанасьці гэтак званага «зялезнага генэральнага сакратара», пара, калі партыйная эліта ўбачыла ў сваім кіраўніку вульгарнага гістэрыка й двулічнага Януса, што з хлапецкай спраўнасьцю кідаўся з кута ў кут, з шаленства ў усьмешку, з балота тупых рэпрэсіяў у сьлязьлівае нагаварваньне, із «партыя адзіная й маналітная» ў «нікому больш верыць нельга».

Але ў вакружэньні Сталіна ўсё яшчэ было ня мала дасьветчаных дзяржаўных і партыйных дзеячоў, пераважна старых бальшавікоў, як напрыклад, старшыня ЦВК СССР і ВУЦВК кандыдат палітбюра Рыгор Пятроўскі, сакратар ЦВК СССР і сябра ЦК ВКП(б) Авель Енукідзэ, заступнік старшыні Савету Народных Камісараў і сябра палітбюра Валерыян Куйбышаў, заступнік старшыні Савету Народных Камісараў і сябра палітбюра Ўлас Чубар, народны камісар замежнага гандлю Аркадзь Розэнгольц, народны камісар сувязі Аляксей Рыкаў, старшыня Дзяржпляну Валеры Междаук, народны камісар цяжкога промыслу і сябра палітбюра Рыгор Орджанікідзэ й другія. Гэта былі людзі яўна спакайнейшыя, чымся Сталін і Молатаў, і рэагавалі на ўзрастаючы тэрарыстычны шал вельмі глыбака. Калі мы занялі месцы ў Вялікім Тэатры, Файзула Хаджаеў нагнуўся й запытаў мяне: «А што ў вас думаюць аб Чарвякову?» Я адказаў, што асабіста ня знаю Чарвякова, але, паколькі магу судзіць на падставе прыватных высказваньняў, ягоная рэпутацыя стаіць ня вельмі высака. «А гэта напрасна, — сказаў Файзула — гэта-ж запраўдны бунтар». Чарвякоў быў старшынёй ЦВК СССР і ЦВК Беларусі. Ён у запраўднасьці рэагаваў на падзеі дакладна так, як і пералічаныя людзі.

Енукідзэ, аднак, з самага пачатку аказаўся найбольш сьмелым, найбольш пасьлядоўным, найбольш мужным сябрам алімпу. Гэта адзін толькі ён адважыўся на ультыматум у пісьменнай форме: або ЦК ВКП(б) безадкладна паложыць канец дзікаму шаленству й паніжыць тэмпэратуру ў краіне, або ён падае заяву аб адстаўцы з усіх становішчаў. Розэнгольц і Межлаук, не пасоўваючыся гэтак далёка, таксама патрабавалі склікаць XVIII зьезд партыі й абсудзіць на ім створанае палажэньне. І гэтак далей.

Сталін, як уталентаваны палітычны шахмацісты і, быць можа, як ня дрэнны палітычны псыхалёг, не астаўся глухім, прадпрыняў удачныя абходныя манэўры пешкамі, выкарыстаў «палітыку перніка» і гэтым у значнай меры вызначыў ня толькі лёс свайго рэакцыйнага рэжыму, але й далейшы ход падзеяў. Я думаю, што аб ягоных манэўрах карысна ведаць усяму сьвету, таму што ім мы забавязаны ў значнай меры заіснаваўшае сяньня міжнароднае й нутранае палажэньне савецкай імпэрыі.

Ужо ў канцы першага месяца пасьля забойства Кірава крэмлёўскі алімп зразумеў, што маўчалівы гнеў абняў усю краіну й пачынае прыймаць грозныя разьмеры, а таму патрэбныя сьпешныя радыкальныя меры, але радыкальныя толькі ў тактычна-псыхалягічным сэньсе, а ня ў сэньсе адмовы ад разьлічаных на доўгі час ваенна-палітычных і іншых стратэгічных мэтаў. Патрэбныя былі «пернікі», як гаварылі мы.

Першым і найбольш фантастычным для савецкіх умоваў пернікам была ведамая пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) за подпісамі Молатава й Сталіна ад 8 сьнежаня 1934 году (цераз тыдзень пасьля забойства Кірава!) аб адмене картачнай сыстэмы на печаны хлеб, муку й крупы й сыстэмы атаварваньня тэхнічных культур. Для згаладалай і вымучанай краіны гэта было вялізарнай псыхалягічнай падзеяй. Яшчэ старажытны філёзаф гаварыў: успакайвай галодных бунтароў хлебам! Разам з гэтым, гэтая пастанова, зусім нечаканая і ўзапраўды сэнсацыйная, адным ударам, у вадзін дзень, унесла ў рады апазыцыяў, яўных і няяўных, настолькі-ж нечаканую дэпрэсію, няўверанасьць, хвальшывы сорам, недавер да правільнасьці сваей справы, маральна-палітычны расклад. І калі я пішу гэтыя радкі, у студзені 1953 году, церазь сямнаццаць год, мне хочацца крыкнуць трэйцяму й чацьвертаму пакаленьням Кастрычніцкай рэвалюцыі: крэмлёўская алігархія будзе задаваць вам удары такімі мэтадамі і ў будучыні! Вучыцеся на нашых памылках і няўдачах!

На наступны дзень, паралельна з хвалямі тэрарыстычнага шаленства, усе цэнтральныя газэты апублікавалі абшырную заяву народнага камісара вонкавых справаў М. Літвінава аб францускасавецкім пагадненьні аб дружбе й узаемапомачы. Радыё загаварыла аб сусьветна-гістарычных перамогах сталінскай дыплямацыі. Прапагандовы апарат зрабіў усё магчымае для ўспакаеньня насельніцтва і ў галіне вонкава-палітычных праблемаў, для ўнясеньня раскладу ў рады ідэйных праціўнікаў і ў гэтай галіне жыцьця, для рашучага абяззбраеньня найбольш бунтарна настроеных элемэнтаў партыі і ўраду. Мы сталі падобнымі да гэгеляўскіх птушак, зь якіх пёры вырываліся па аднаму.

Прыпомнім, далей, што ў тыя памятныя часы найбольш войстрым і найбольш небясьпечным вынікамі пытаньнем было гэтак званае «нацыянальнае пытаньне». «Буржуазныя нацыяналістыя» паднялі галовы ўсюды. Сэпаратыстычныя эмоцыі ў некаторых месцах і ворганах дасягнулі або апогэю, або напоўкрытычнай фазы. Значыцца і тут патрэбныя былі якіясьці пернікі, і Сталін іх знайшоў. Была фарсаваная работа камісіяй цэнтру ў галіне новага адміністрацыйна-палітычнага раёнаваньня імпэрыі. Прыволскі, Паўночна-Каўкаскі, Кіраўскі, Горкаўскі і іншыя краі; Закаўкаская Савецкая Фэдэрацыйная Сацыялістычная Рэспубліка і рэспублікі Сярэдняй Азіі — усё гэта было паддадзенае тэрытарыяльна-адміністрацыйнаму, гаспадарскаму й палітычнаму распадзелу; замест моцных аўтаномных фармацыяў, здольных у вадзін любы дзень запратэставаць супраць лішняга ўмешваньня цэнтру, узьніклі дробныя саюзныя і аўтаномныя вобласьці і рэспублікі, краі й акругі. Разумеецца, Крэмль прадстаўляў свае мерапрыемствы, як праяўленьне «клопатаў партыі і ўраду», але ў запраўднасьці ішло аб прышчапленьні прынцыпу старажытных Рымлян: разьдзяляй і пануй.

Але й гэта яшчэ ня ўсё. З 12 па 16 сьнежаня ў цэнтральнай і мясцовай, асабліва ў украінскай, каўкаскай, беларускай і крымскай, прапагандзе была разьвернутая ўзапраўдная янусаўская сьвістапляска з нагоды гадавіны УССР. Асноўны лейт-матыў: толькі ў складзе СССР, толькі пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі, толькі пры помачы вялікага расейскага народу магчымы расьцьвет нацыянальных эканомікі, культуры й палітычнай сувэрэннасьці. Пры кладам УССР білі па астальных народагрупах. А каб «клопаты партыі і ўраду» мелі важкае значэньне, сакратар ЦК ВКП(б) Павал Пастышаў, гэты ня дурны й ня вельмі разумны дэмагог, быў назначаны другім сакратаром ЦК КП(б)У; такім чынам, цяпер у склад палітбюра ўваходзілі: Чубар, Касіёр, Пастышаў, Пятроўскі. Падобныя пернікі сыпаліся і ў другія рэспублікі.

Трэйці і, бадай што, самы важны «клопат» выразіўся ў стварэньні цэнтральнай камісіі для апрацаваньня праекту новай канстытуцыі СССР (была створаная 16 лютага 1935 году). У яе ўвайшлі: Я. Сталін (старшыня), Н. Айтакаў, І. Акулаў, А. Бубноў, Н. Бухарын, К. Варашылаў, А. Вышынскі, І. Галадзед, А. Енукідзэ, М. Ербанаў, А. Жданаў, А. Ікрамаў, Л. Кагановіч, М. Калінін, А. Красікаў, Н. Крыленка, М. Літвінаў, П. Любчанка, Л. Мэхліс, А. Мікаян, В. Молатаў, Г. Мусабекаў, Г. Пятроўскі, К. Радэк, А. Рахімбаеў, Е. Стасава, Д. Сулімаў, І. Уншліхт, Ф. Хаджаеў, А. Чарвякоў, В. Чубар.

Учытайцеся ўважна: прадстаўленыя ўсе нацыянальныя групы СССР. Прадстаўленыя навет апазыцыйныя групы. Сталін зрабіў выдатны шахматны ход, які меў далёка йдучыя насьледкі. Навет тыя зь яўных і няяўных апазыцыянераў якім удалося ўцалець, аказаліся абяззброенымі, анясьмеленымі. Трэба паўстрымацца ад далейшых спробаў змагацца супраць сталінскага рэжыму, — раздаваліся галасы, — відаць, крэмлёўскія верхаводы паразумнелі і справы йдуць на лепшае, значыцца, пашто-ж нам ламацца ў вадчыненыя дзьверы? «Буржуазным нацыяналістым» былі дадзеныя выразныя намёкі на тое, што ў новай канстытуцыі іхныя дамаганьні знойдуць зусім здавальняючае разьвязаньне.

Далей. Газэты былі перапоўненыя каляровымі апісаньнямі нябывалага расьцьвету аддаленых і забытых ў мінуўшчыні раёнаў, як, прыкладам, Далёкі Ўсход. Масквічы ленінградцы, Каўкасцы й Украінцы, Беларусы й Валжане, якія ня мелі рэальнага ўяўленьня аб гэтым далёкім краі, чытаючы шоўкавыя апісаньні, знаходзячыся да гэтага пад уплывам «мірнага наступу» на ўсіх астальных франтох, ня сумляваліся, або сумляваліся меней, што, ня гледзячы на тэрор, у краіне ўсё-ж такі ствараюцца ўзапраўды гігантычныя пазытыўныя справы, што крэмлёўскія Янусы занятыя добрымі імкненьнямі. Сябра палітбюра Варашылаў, каб узмоцніць такія разважаньні наіўнага абывацеля, зарганізаваў у сябе пышнае прыняцьце радавых воінаў Спэцыяльнай Далёкаўсходняй Чырвоназнамённай Чырвонай Арміі, — органы прапаганды атрымалі яшчэ адзін пернік для развузданай псыхалягічнай апрацоўкі насельніцтва.

Але ўсё гэта яшчэ нічога ў параўнаньні з тэй кампаніяй, якая разьвярнулася ў усесаюзным маштабе з нагоды надыходзячых у студзені выбараў у мясцовыя саветы. У кажным куточку імпэрыі, у кажным доме, у кажнай сям'і, з кажным дарослым чалавекам, працавалі агітатары й прапагандыстыя. Я адзначаю гэты факт дзеля таго, што ў далейшым яму было суджана стацца бесьперапынна дзеючым стандартам палітычнага й псыхалягічнага ўзьдзейваньня. І трэба прызнаць, што ў руках сталінскіх агітатараў і прапагандыстых знаходзілася зусім дастатковая колькасьць пернікаў. Успомненая адмена картачнай сыстэмы сама па сабе зь ліхвай перавышала патрэбы эпохі пернікавай палітыкі. Вынік? У найбольш крытычныя часы, цераз паўтара месяца з дня выстралу ў Смольным, ня гледзячы на тэрарыстычны шал, сталінцы атрымалі захапляючую бальшыню галасоў. Праўда, выясьнялася гэта тым, што галасаваньне ўсё яшчэ было адкрытым. Быць можа, якраз гэтыя выбары і паслужылі апошнім іржавым цьвяком для нутранапартыйных і іншых апазыцыяў. На першы пагляд гэта ня вельмі відавочна, але, на жаль, для такога выводу існуюць сур'езныя асновы.

**( Заканчэньне ў наступным нумары)**

*) 239—248 балоны другога тому аўтабіяграфічных нарысаў Г. А. Такаева. Друкуецца за згодай аўтара. Передрук сурова забараняецца.

**Г. А. АЛЕКСІНСКІ**
**былы Сябра Дзяржаўнай Думы ад Ленінграду й Краншгадту**

# Аб «Каардынацыйным Цэнтры»

**АД РЭДАКЦЫІ: Выдатны расейскі палітык і публіцысты Г. А. Алексінскі зьмяшчае на балонах газэты «Освобождение» цыкль артыкулаў п. н. «Пісьмы да сваіх і чужых», у якіх асуджае расейскі імпэрыялізм, як і імпэрыялістычную палітыку расейскіх эміграцыйных палітыкаў, і сьмела выступае ў вабароне нацыянальных правоў нерасейскіх народаў. У № 6 «Освобождение» за 15. 4. 1953 паявілася ўжо ягонае 5-ае «Пісьмо», частка другая якога прысьвечаная поўнасьцю КЦАБ-у. Перадрукоўваем ніжэй яе поўнасьцю, каб паказаць чытачу, як заглядаюцца на гэтую пародыю супольнага з Расейцамі антыбальшавіцкага цэнтру, якім ёсьць КЦАБ у сяньняшняй сваей форме, тыя нямногія сумленныя й прагрэсыўныя Расейцы, дэмакраты не на славах, але ў чынах, розумы якіх ня зьвіхнутыя трызьненьнямі аб «адзінай і недзялімай» і не заражаныя ядам фанатычнага шавінізму.**

*

Палажэньне ўнутры СССР і міжнароднае становішча такія, што патрэбнае задзіночаньне ўсіх антысавецкіх сілаў.

Справа задзіночаньня, якое было праведзенае ў форме г. зв. «Каардынацыйнага Цэнтру», выявілася няўдалай. Гэтага трэба было спадзявацца, бо сама пабудова гэтага цэнтру асудзіла яго на няўдачу.

Было некалькі прычынаў гэтае няўдачы. Адна зь іх гэта асоба расейскага старшыні «Каардынацыйнага Цэнтру». Я пішу пра гэта зь вялікім сумам і зь цяжкой канечнасьці, бо Мельгуноў — мой таварыш з Маскоўскага ўнівэрсытэту. Але я мушу сказаць гэта, што скажу цяпер, бо, як асоба, што ўважала сябе за ўпраўненую ўзяць на сябе рэпрэзэнтацыйныя й кіраўнічыя функцыі, ён тым самым узяў на сябе й адказнасьць перад грамадзкаю думкаю.

Справа ў тым, што Мельгуноў — чалавек, які назаўсёды атручаны сваім собскім мінулым. Арыштаваны ў Маскве ў 1920 годзе, у справе г. зв. «Тактычнага Цэнтру», ён зраджаў на допытах сваіх таварышаў з гэтай нелегальнай антысавецкай арганізацыі, працэс якой закончыўся некалькімі сьмяротнымі прысудамі — не для Мельгунова, якому навет ня прыйшлося, як усім нам, эміграваць ці ўцякаць нелегальна за мяжу, куды ён выехаў з дазволу савецкай улады, так што для мяне ён не прадстаўляе сабой навет палітычнага эмігранта, ніякіх «злагодніваючых абставін» яго «нядобрых паводзінаў» на допытах у ЧК ня было, бо, як ён сам аб гэтым паведаміў у сваіх, досыць дзіўных для дарослага чалавека, успамінах пра гэтую справу, фізычным тартурам яго не паддавалі, адчуваў толькі «маральны ціск», які сябра нелегальнай палітычнай арганізацыі забавязаны ўмець ператрываць, не скапітуляваўшы. Ён-жа скапітуляваў і зрадзіў сваіх таварышаў. Калі, шмат год таму, ён прабаваў выступіць у Парыжы на ўшанаваньні памяці «ахвяраў тэрору», забўшыся пра тых, хто быў засу-

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

бальшавіцкі цэнзурны гвалт, хоць і «зьліквідаваў» твор на ягоным кульмінацыйным пункце, пакінуў зь яго яшчэ даволі, каб забясьпечыць яму паўнакроўнае яшчэ жыцьцё ў чытацтве, якое й аднаўляецца цяпер пры перавыданьні апублікаваных частак твору.

*

**АНДРЭЙ МРЫЙ**

# Запіскі Самсона Самасуя

Я скажу ўсім, хто гэтага пачаў-бы дамагацца, што я — сучасны чалавек. Маё імя Самсон Самасуй.

Я з мужыкоў.

Мой бацька, дзед, прадзед, прапрадзед, прапрапра . . . і г. д. усе былі мужыкамі. Я надзвычайна гарды тым, што маю мужыцкі твар і асабліва нос у форме бульбы. У залежнасьці ад гэтага і розум мой ёсьць розум выразна мужыцкі. Мне могуць сказаць, што няма такой катэгорыі, як мужыцкі розум, а я скажу, што ў мяне толькі такі і ёсьць.

Далей сьмела ўсім заяўляю, што бацька мой ня кулак. Даю фактычную даведку.

Дзьве каровы, конь, жаробка, сьвіньня, здаецца, 4 ці 7 прадстаўніц курынага роду, хата з трыма вакешкамі, ды яшчэ рознае не стандартызаванае хаўбосьце. Такім чынам, па эканамічнай адзнацы майго бацьку ніяк нельга залічыць да ганебнага стану кулакоў. А з пункту гледжаньня ідэялёгіі, дык ня ведаю, як зарэгістраваць яго. Хто можа аб гэтым упэўнена сказаць, калі, як кажа мой прыяцель, філёзаф Торба, заблытана чалавечае жыцьцё, і няма ў ім срога акрэсьленай намэнклятуры.

Другі мой прыяцель, настаўнік Цыба, сказаў мне, што мой бацька, магчыма, і ёсьць кулак, бо пытаньне аб прыналежнасьці да гэтага заалягічнага тыпу вырашаецца часта ня лікам кароў ці коняй, а настроем і эксплуатататарскай чыннасьцю.

Вось гэта як у сук улеплена.

Пра сябе скажу, што іншы раз я вельмі абураны ангельскімі імпэрыялістымі, здаецца, горла ім перарэзаў-бы, а ў другі раз салодка мару аб прынадах буржуазнага жыцьця. Так салодка мару, што пасьля і самому сорамна робіцца. Нават чырванею.

Мой лепшы сябра, настаўнік Мамон, жартуючы кажа:

— У цябе ўсё мужыцкае, а пуза панскае! І праўда! — думаю я і хачу высьветліць прычыны гэтага. Знаходжу толькі адно тлумачэньне для гэтай дыспрапорцыі: прырода вядзе гандаль з маім целам — яна дае мне сыр, масла, хлеб, розныя іншыя карысныя й некарысныя фэрмэнты (ня ведаю, ці можна так гаварыць: у мяне нейкі пал да чужаземшчыны). У замену за гэта прырода адбірае ад мяне зусім нявартыя для мяне рэчы, за якія ніхто і шэлята ня дасьць. І вось гэты гандаль з прыродай выклікае ў мяне такую пярэстую рознастайнасьць маіх настрояў, эмоцыяў, хаценьняў, жаданьняў, перажываньняў.

Адна ня вельмі разумная жачына, якую я аднойчы ў вочы назваў індыйскім просам дурро, атэставала мяне, як дэклясаванага мешчаніна. Зразумела, гэта зусім ня так. Гэта назва выклікана помстай за маю досыць удалую атэстацыю. Праўда, памянёны філёзаф Торба адзначыў мяне, як клясава нявытрыманага байца, сказаў мне, што я неўраўнаважаны (а ён ураўнаважаны?) чалавек. Няхай сабе так. Скажу толькі, што я сам лічу сябе сучасным і здавальняюча-разумным чалавекам, хоць павінен зь вялікай неахвотай памянуць пра шапялёўскіх яўрэяў, якія пад нос завуць мяне «мішугэнэ». І гэта ня гледзячы на тое, што я ў райвыканкоме ў сваіх руках трымаю важныя спрунжыны культуры і ведаю, што раблю!

Пра мінулае маўчу.

Мяне матка часта ўпікае:

— Трынку, валынку, сьвету палавінку аб'езьдзіў, сьвет абкалаціў, ды сюды вараціў!

Некалькі разоў сядзеў я пад арыштам і карміў сваёй чырвонай кроўю блох ды іншых шасьцікрылых і шасьціногіх херувімаў і сарахвімаў. Ды і не магло быць інакш з маім тэмпэрамэнтам.

Спамяну пра адзін выпадак.

У 20 годзе я быў прадагэнтам. Прыяжджаю ў Гомель, і на кажным кроку мне анкеты запаўняць даюць. Хто мой бацька, хто мая матка, што яны рабілі да рэвалюцыі і пасьля яе, ці была ў мяне маёмасьць, і калі была, дык куды яна дзелася? Да 300 запытаньняў было ў той анкеце, якую падсунулі мне ў заежджым доме № 3. На мяне ўсьсеў д'ябал нейкі. Думаю: дай-жа я пажартую зь імі, пагляджу, што зь іх будзе.

Пішу: да рэвалюцыі быў буйным земляўласьнікам, меў 300.000 акраў чарназёму, быў сакратаром пасольства ў Лёндане. І шмат яшчэ чаго нахлусіў.

Яны, галубчыкі, і сцапалі мяне. Пасадзілі ў блыхарню і трымалі там, пакуль добра высьветлілі, што я ніякім буйным земляўласьнікам ня быў.

Выпусьцілі мяне, але кар'ера мая была сапсавана, і я доўга ня мог знайсьці сабе месца, якое адпавядала-б маім здольнасьцям. Праз год я знайшоў сабе пасаду, і пра гэта будуць гаварыць мае запіскі.

Цяпер-жа скажу, чаму я сеў за стол і пачаў пісаць.

Яшчэ тры гады назад я неяк напісаў у газэту карэспандэнцыю аб выбрыках старшыні каапэратыву і прачытаў яе асобе, якая для мяне даражэй за ўсё на сьвеце. І яна сказала мне:

— Пішы, пішы! Зь цябе можа і выпішацца што! Гэтыя словы, як маланкай, спалілі мяне. Як вар'ят, хадзіў я па пакою і мармытаў сабе гэтыя словы:

— Пішы, пішы! Можа што і выпішацца!

Цяпер я і пішу.

Але я не паперапсуй, пішу зусім не для таго, каб бачылі ўсе напісанае мною. Розум мой даўно прайшоў эмбрыёнальную стадыю разьвіцьця і я добра ведаю, якое вялікае значэньне маюць дробязі ў жыцьці. У маім цяперашнім пакоі я павесіў на сьцяне плякат із словамі аднаго вучонага, які сказаў:

— Каб мы ведалі ўсе дробязі жыцьця якой-небудзь казюлькі, мы шмат якіх памылак маглі-б не зрабіць!

Вось я і пішу свае запіскі. У іх буду гаварыць аб дробязях свайго жыцьця: як я з бацькам пасварыўся, як паехаў я шукаць свайго шчасьця, як хацеў там пашырыць сваё фізычнае я і як з гэтага нічога ня вышла.

Сам я не надаю ўсяму гэтаму вялікага значэньня. У сусьветныя маштабы ня веру.

Але мой сябра, настаўнік Мамон, каторы ўвесь час штурхае мяне на шлях славы, кажа мне, як Мэфістофэль:

— Твае мэмуары будуць перакладзены ня нямецкую, ангельскую, францускую і нават готэнтоцкую мову! Каб я меў час і здольнасьць, я зараз пачаў-бы перакладаць на гэтыя 4 мовы.

Заўважце што ў настаўніка Мамона ёсьць вельмі складаныя абавязкі мужа, бацькі, сына, загадчыка, рэвізора 7 устаноў і прамоўцы на ўсіх пасяджэньнях і нарадах. Калі ён гаворыць так, значыцца мае запіскі маюць значэньне, якое выходзіць за межы маёй асобы.

Гэта мне паддае жару, і ў поўнай сьвядомасьці і цьвёрдай памяці я пачынаю свае запіскі.

**(Далей будзе)**

# Аб «Каардынацыйным Цэнтры»

**(Заканчэньне з 3-яй балоны)**

джаны на сьмерць у справе «Тактычнага Цэнтру», у Парыжы была выпушчаная лістоўка — адкрытае пісьмо да Мельгунова, — у якім яму была дадзеная рада паўстрымацца ад выступленьняў. І вось цяпер ён пастанавіў уважаць сябе за ўпраўненага ня толькі вярнуцца да палітычнай дзейнасьці, а й заняць становішча кіраўніка «Каардынацыйнага Цэнтру». Гэта, зь ягонага боку, была недапушчальная памылка, бо, каб весьці за сабой іншых, трэба мець некаторую асабістую мужнасьць, хаця-б у такой меры, каб, дзеля выратаваньня сябе самога, не ахвяроўваць таварышаў у змаганьні. Адзін расейскі філёзаф гаварыў, што нам патрэбныя «прарокі й правадыры». Я гэтага ня вымагаю ад слабых людзей накшталт Мельгунова, але слабыя людзі не павінны прэтэндаваць на ролю «правадыроў». Прыгадваючы сваё паступаньне на допытах, Мельгуноў сам пісаў: «Трэба было быць гэроям, але я гэраізму ў сваей душы не адчуваў».

І вось гэты бедны «нягэрой» высунуўся старшынёю якіхсьці расейскіх эміграцыйных арганізацыяў. Калі я даведаўся аб гэтым, я, як **Расеяц** і як палітычны эмігрант, адчуў за гэтыя расейскія арганізацыі палючае пачуцьцё сораму перад нерасейскімі эміграцыйнымі арганізацыямі, ніводнай зь якіх, вось-жа, ня прышло на думку давяраць кіруючае становішча чалавеку, які нясе на сабе такі цяжкі грэх.

Але, звычайна, няўдача «Каардынацыйнага Цэнтру» не паясьняецца самым толькі фактам няўдалага выбару старшыні. Старшыню можна зьмяніць, ды ў дадатак у той мамэнт, калі я пісаў гэтыя радкі, мяне паведамілі, што Мельгуноў сам падаўся да дымісіі з гэтага становішча. Я рад за яго, калі гэта так, і ўжо ня буду турбаваць ягоную палітычную тлень.

Але ў будове «Каардынацыйнага Цэнтру» была й іншая, куды важнейшая, памылка. Расейцы, якія прыймалі ўдзел у ягонай арганізацыі, уважалі за немагчымае якое-небудзь паразуменьне зь нерасейскімі нацыяналістымі сэпаратыстычнага кірунку і абмежаваліся да згоды з гэтак званымі фэдэралістымі. Гэта абазначала-б ісьці па лініі найменшага супраціву, тады як заданьнем палітычнага дзеяча — знаходзіць шляхі да разьвязаньня не найлягчэйшых, а найцяжэйшых пытаньняў палітыкі. З фэдэралістымі згода ня была наагул якім-небудзь пытаньнем, бо сама іхная пазыцыя, як фэдэралістых, здалёку гэтую згоду вызначала наперад.

Каб унікнуць непаразуменьняў, я мушу агаварыцца, што я вызнаю за фэдэралістымі такое-ж абсалютнае права свабодна высказваць іхныя думкі ў нацыянальным пытаньні, як і за ўсякімі іншымі групамі й плынямі. І я сурова асуджаю тых, хто, як гэта робяць «тэмпэраментныя», бандэраўцы, намагаюцца сілай пазбавіць фэдэралістых іхнага законнага права высказваць і абараняць свой пункт гледзішча. Тарнаваньне фізычнае дзеі для вырашэньня ідэялягічных і палітычных разыходжаньняў — гэта «адрыжка» той-жа такі савецкай атмасфэры. А апрача гэтага, яе выкарыстоўваюць і саветчыкі, якім (як гэта відаць із зацытаванай у маім першым «Пісьме» бандэраўскай газэты «Сурма») выгадна завастраць дачыненьні ў лягеры палітычнай эміграцыі. Напасьледак мэханічна-фізычныя способы вырашэньня ідэйных і палітычных разыходжаньняў кампрамітуюць эміграцыю ў вачох яе чужаземных прыяцеляў і выкарыстоўваюцца ў эміграцыйным асяродзьдзі ня толькі супрацьтых, хто тарнуе гэтыя способы, а й проціў некаторых кірункаў наагул. Прыклад: калі нядаўна адзін украінскі фэдэралісты падпаў асабістаму нападу з боку бандэраўцаў, адна расейсакя правая газэта пасьпяшыла паінфармаваць пра гэта сваіх чытачоў у зацемцы пад загалоўкам: «Хуліганскі выбрык сэпаратыстых», а ў тэксьце зацемкі ўважала за патрэбнае падчыркнуць, што напасьнікамі былі, быццам, «галічане». Інакш кажучы, удзельнікі нападу далі расейскай правай газэце нагоду лішні раз пасеіць сярод чытачоў варожасьць да «сэпаратыстых» і зрабіць шавіністычны выступ спэцыяльна супраць Украінцаў з былай Галіччыны.

Прызнаючы, — паўтараю — за фэдэралістымі поўнае права абараняць сваю думку і браць удзел у вагульным антысавецкім фроньце, я ўважаю, як я ўжо сказаў, што найістатнейшае пытаньне не ў паразуменьні Расейцаў зь імі, бо магчымасьць такога паразуменьня ўжо наперад вызначаецца іхнай пазыцыяй, а ў паразуменьні з паўней вызначанымі нацыянальнымі ўгрупаваньнямі, з плынямі якраз сэпаратыстычнымі. Гэта тым больш патрэбна, што пазыцыі многіх фэдэралістых — хісткія й падпадаюць зьменам. Хай не наракаюць на мяне мае былыя таварышы з партыі, грузінскія сацыял-дэмакраты — меншавікі, але, напрыклад, іхная група дае яркі ўзор гэтай нявызначанасьці і хісткасьці. У запраўднасьці, грузінскія сацыял-дэмакраты — меншавікі цераз двух дэлегатаў рэпрэзэнтаваныя ў «Каардынацыйным Цэнтры», у якім сэпаратыстычныя нацыянальныя арганізацыі не бяруць удзелу. Але адначасна грузінкі меншавіцкі цэнтр («грузінскі ўрад» на эміграцыі) рэпрэзэнтаваны ў вагульна сэпаратыстычным цэнтры, куды ўваходзяць Украінцы, Беларусы Армяне («дашнакцютун»), Паўночныя Каўкасцы й інш. Гэты — грузінскі — прыклад напоўфэдэралістых, што навет не сядзяць між двума крэсламі, а намагаюцца сядзець адначасна на двух крэслах, якія павернутыя не ў вадзін і той самы бок, паказвае, якой мерай нязручная нявызначанасьць і няяснасьць якраз у гэтым галоўным пытаньні агульнага фронту Расейцаў і нерасейцаў. І зусім ясна, што канец канцоў людзям прыходзіцца адмовіцца ад гэтай няяснасьці і заняць больш вызначаную пазыцыю, што ў дадзеным выпадку, мне здаецца, павінна закончыцца выхадам грузінскіх меншавікоў з «Каардынацыйнага Цэнтру», што будзе для гэтага цэнтру пачаткам канца, бо, як усім ведама, грузінскія меншавікі ўзялі на сябе не малую частку адказнасьці за стварэньне гэтага няўдалага задзіночаньня.

Як Расеяц, я мушу дадаць і навет спэцыяльна падчыркнуць, што расейскія сябры «Каардынацыйнага Цэнтру» зусім ня рэпрэзэнтуюць грамадзкай думкі расейскай часьці палітычнай эміграцыі, ані якія-небудзь яе вялікія арганізацыі. Дзьве-тры маленькія групы, што, дзякуючы асабістым сувязям некалькіх людзей, выявіліся «блізкімі» да Амэрыканскага Камітэту, гэты Камітэт прыняў за ўпаўнамочаных прадстаўнікоў расейскай эміграцыі. А тым часам якраз гэтыя групы ня мелі, ды й цяпер ня маюць ніякага рэальнага ўплыву ў расейскім эміграцыйным асяродзьдзі. Калі гэтае асяродзьдзе пачынае цяпер трохі бліжэй пазнаваць якуюсь палітычную арганізацыю, дык гэта, звычайна, «салідарыстых», якія ўсё-ж такі нешта робяць, каб пранікнуць да расейскай эміграцыі. выдаюць свой тыднёвік, арганізуюць публічныя даклады й падобнае. Я далёкі ад думкі згаджацца з дактрынай і праграмай гэтай арганізацыі, а асабліва ў нацыянальным пытаньні і ў пытаньні пра ўзаемадачыненьні між «Расейцамі» і «нерасейцамі» на эміграцыі, але гэта ня перашкаджае мне прызнаць, што сярод расейскіх групаў група «Посева», — найактыўнейшая й найэнэргічнейшая. І якраз гэтая група не ўвайшла ў «Каардынацыйны Цэнтр», у якім расейская эміграцыя выявілася рэпрэзэнтаванай слабымі «аб'яднаньнямі добрых знаёмых», што такімі й астануцца, хоцьбы й якімі «Лігамі» ці «Рухамі» яны сябе не называлі.

Ня змогшы ні арганізаваць вакол сябе хоць-бы шырокія колы толькі расейскай часьці эміграцыі, ні вырашыць галоўнага заданьня супольнага фронту, гэта значыць дасягнуць згоды між «Расейцамі» й «нерасейцамі», бедны «Каардынацыйны Цэнтр» выявіўся, у запраўднасьці, нікому непатрэбным, як цэнтр палітычнай эміграцыі. А цяпер ён, звычайна, выявіцца непатрэбным і Амэрыканскаму Камітэту, што прыйма̀ў удзел у яго стварэньні. Зь нядаўна апублікаванай дэклярацыі Амэрыканскага Камітэту відаць, што ён напасьледак зразумеў, што яго завялі ў вабман і што праблема стварэньня супольнага антыбальшавіцкага фронту каардынацыі дзейнасьці эміграцыі ня можа быць вырашана ў тых рамках, у якіх запёр сябе «Каардынацыйны Цэнтр», а толькі на шляху запраўднай арганізацыі і запраўднага паразуменьня між «Расейцамі» і «нерасейцамі» — таго, якое прапаведвае аўтар гэтых радкоў.

Няўдача «Каардынацыйнага Цэнтру» была нямінучай. Звычайна, гэтая няўдача прывяла да вялікай страты матарыяльных сродкаў і, што яшчэ даражэй, часу, але няхай жалюгоднае дасьветчаньне гэтае няўдачы пойдзе прынамся на карысьць.

Прыходзіцца пачынаць усё нанова. Баяцца гэтага ня трэба. Калі патрапім стаць на правільны шлях, хутка надробім страчаны ня з нашага боку, а з боку іншых, час. Першае, што патрэбна, гэта «самавызначыцца» і «самаарганізавацца» нам, Расейцам. Ня трэба прыхоўваць ад сябе, што мы, Расейцы, найменш задзіночаныя. Нацыянальныя элемэнты — «сэпаратыстыя» — задзіночаныя непамерна больш і лепш за нас.

Трэба стварыць наўперад расейскае нацыянальнае задзіночаньне, якое ў сваім настаўленьні да «нерасейцаў» павінна кіравацца простай расейскай прыказкай: «Насільна мілым ня будзеш». Шлюб зь любові ці хоць-бы з вырахаваньня — гэта адно, а пагвалчэньне — другое. Мы, Расейцы, павінны проста й адкрыта сказаць усім іншым нацыянальным элемэнтам эміграцыі, што мы цалкам і без агаворак вызнаём поўнае права ўсіх народаў СССР на іхнае нацыянальнае й дзяржаўнае самавызначэньне, уключна да аддзяленьня й утварэньня асобных і самастойных дзяржаўных адзінак. І толькі тады магчымым будзе запраўдная чэсная дагаворанасьць нашая зь імі і стварэньне запраўднага супольнага фронту не для ўяўнай, а для рэальнай каардынацыі дзеяў . . .

**Г. А. Алексінскі**

# Агульны Гадавы Сход

**СЭКЦЫІ БЕЛАРУСКІХ РАБОТНІКАЎ У ФРАНЦЫІ**

Дня 19 красавіка сёлета адбыўся ў Парыжы агульны гадавы сход беларускай сэкцыі Хрысьціянскага Сындыкату Францускіх Работнікаў. Дасюлешняя ўправа сэкцыі, пасьля справаздачы із сваей дзейнасьці і справаздачы рэвізійнай камісіі, атрымала абсалютарыюм. У склад новае ўправы былі выбраныя: сп. Міхась Наўмовіч генэральным сакратаром, сп. Валентын Міцкевіч ягоным заступнікам, сп. Мікалай Лысуха тэхнічным сакратарэм і сп. Зыгфрыд Пузоўскі скарбнікам. У рэвізійную камісію ўвайшлі: а. Леў Гарошка, сп. Аляксандар Яцэвіч і сп. Э. Цыбульскі. Таксама быў устаноўлены плян працы на бягучы год.

**М. С.**

### РЭАРГАНІЗАЦЫЯ МІНІСТЭРСТВАЎ БССР

**За новым узорам рэарганізацыі ўрадавага апарату СССР, загадам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР з 17 красавіка 1953 г. міністэрства дзяржаўнай бясьпечнасьці БССР і міністэрства нутраных справаў БССР былі злучаныя ў вадно міністэрства нутраных справаў БССР, а міністэрства лёгкай прамысловасьці БССР, міністэрства харчовай прамысловасьці БССР і міністэрства мясной і малочнай прамысловасьці БССР былі злучаныя ў вадно міністэрства лёгкай і харчовай прамысловасьці БССР. Міністрам нутраных справаў БССР быў адначасна назначаны нейкі Іван Міхайлавіч Баскакаў, а міністрам лёгкай і харчовай прамысловасьці БССР Аляксей Ільіч Золаў, абодвы, як паказваюць ужо прозьвішчы, чыстакроўныя Расейцы.**

### ПАНАХІДА ПА СЬВ. ПАМ. М. РАВЕНСКІМ

Дня 18 красавіка сёлета, у саракавы дзень сьмерці сьв. памяці Міколы Равенскага, была за супакой ягонай душы адслужаная ў Мэльбурне (Аўстралія) ўрачыстая панахіда. Панахіду адслужыў а. Хведар Дземянюк, сьвятар сэрбскай праваслаўнай царквы. Айцец Хведар нарадзіўся ў Кобрыншчыне, але змалку апынуўся на эміграцыі й толькі цяпер, знайшоўшыся ў Аўстраліі, меў магчымасьць стыкнуцца з сваімі суродзічамі Беларусамі й зь беларускім грамадзкім жыцьцём.

У канцы панахіды а. Хведар сказаў прыгожае й глыбока павучальнае казаньне, падчыркнуўшы ў ім заслугі й значэньне для нашага музычнага мастацтва сьв. пам. праф. Міколы Равенскага.

**А. Маханеўскі**

# Шукаем старшыні

**МОЖА БЫЦЬ І ФЭЛЬЕТОН**

Нашае Аўстралійскае Аб'яднаньне стала перад праблемай: быць ці ня быць?

Калі «быць», дык трэба мець старшыню Аб'яднаньня, а ня мець старшыні — значыць «ня быць».

Ніхто зь сяброў ня можа ці ня хоча быць старшынёй, бо «ня мае часу». Праўду сказаўшы, бальшыня нашых сяброў працуе на кавалак хлеба, але-ж ёсьць і такія, што ня маюць працы. Кажуць, абавязкі старшыні вялікія і забіраюць шмат часу. Нашто грашыць — абавязкі даволі вялікія: 1. дапільнаваць усякія сьвяты й юбілеі, каб із спазьненьнем (паводля беларускае традыцыі) выслаць прывітаньні, 2. таксама із спазьненьнем склікаць чарговы агульны сход. Але-ж гэта не за дарма. За гэта, як правіла, уступаючаму ўраду на чале із старшынёй выносіцца абсалютарыюм.

Дык вось-жа на апошнім нашым агульным сходзе выстаўляліся кандыдатамі на старшыню па чарзе ўсе ўдзельнікі сходу і па чарзе-ж усе катэгарычна адмаўляліся з прычыны браку часу. Потым пакінулі афіцыяльны статутовы спосаб і па хатняму пачалі ўсе ўсіх па чарзе пераконваць і прасіць. Усе перабралі ўсіх і ўсе адмаўляліся. А аргумэнты ўжываліся самыя пераконваючыя, прыкладам «старшыня не абавязаны рабіць нешта добрае й карыснае, галоўнае, каб дурніцаў не рабіў» і г.п.

Здаецца надзея была ўжо страчаная, але ўдалося пераканаць аднаго. І гэты паважаны сябра, па слабасьці характару, прыпёрты да муру, здаўся.

Усе лёгка ўздыхнулі й павесялелі.

Старшыня сходу хуценька закончыў сход, каб, барані Божа, «нававыбраны» старшыня не апамятаваўся.

Ух! На год бяду адпіхнулі.

А я думаю сябе: Дэмаклесаў меч завіс над нашым Аб'яднаньнем і на будучы год напэўна рубане.

І разважаю: Вось у групцы зарубежнікаў «все в порядке». Іхны старшыня калісьці па хатняму атрымаў назначэньне ад Глупіцкага і так кажны год рэгулярна «выбіраецца» на гэтае становішча. Ён зьяўляецца выхаванкам Ватэнштэцкага Сьвітаслава Чарпака, які таксама ў свой час атрымаў быў назначэньне ад Шалапуткі і таксама рэгулярна «выбіраўся. Вялікая ўсё-ж такі рэч — выхаваньне.

Напасьледак пастанаўляю: зьвярнуцца да зарубежнікаў з просьбай даць нам якогась маёра, каб прыйшоў княжыць і валадаць намі.

**Аўстралія.**

**Міхась Папярэчка**

# Новае выступленьне беларускага навукоўца

Наша газэта ўжо паведамляла пра выступленьне д-ра У. Сядуры на Амэрыканскай Канфэрэнцыі. Гэтымі днямі адбылося новае выступленьне нашага навукоўца, на гэты раз перад амэрыканскімі студэнтамі, што вывучаюць праблемы Савецкага Саюзу. У аўторак. 21 красавіка г. г. пры Калюмбійскім унівэрсытэце ў Нью Ёрку адбыўся вечар-дыскусія. прысьвечаны пытаньням Украіны. Даклад зрабіў кіраўнік Украінскае Вольнае Акадэміі Навук за мяжой, праф. Ветухаў, у якасьці другога дакладчыка выступаў студэнт-дактарант сп. Рудніцкі. Дзякуючы прысутнасьці д-ра У. Сядуры вечар фактычнаператварыўся ў дыскусію аб Усходняй Эўропе. Дзеля таго, што абодвы дакладчыкі, называючы краіны Ўсходняе Эўропы, ніводным словам чамусьці ня прыгадалі Беларусь(?!), д-р Сядура палічыў патрэбным выступіць зь інфармацыяй аб сваім краю. Ім кіравала жаданьне не прапусьціць нагоды ўвесьці ў вушы маладых людзей, будучых экспэртаў у пытаньнях Усходняе Эўропы, весткі аб Беларусі, яе вызвольным руху і аб'ектыўна-навукова паінфармаваць аб беларускіх культурных здабытках.

Дарма. што выступленьне д-ра Сядуры на ангельскай мове адбылося экспромтам, бяз усякае папярэдняе падрыхтовы, яно аднак мела пасьпех і прынесла вялікую карысьць як амэрыканскім студэнтам, бальшыня якіх упяршыню запазналася зь беларускім нацыянальным рухам на Беларусі, гэтак і справе належнай рэпрэзэнтацыі беларускае справы ў сьвеце.

Д-р Сядура коратка асьветліў гісторыю Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, абвешчаньне незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г., дзейнасьці ураду БНР і яе рэпрэзэнтантаў за мяжой — незабыўных Крэчэўскага і Захаркі. Шырэй быў асьветлены беларускі культурны рэнэсанс у першым дзесяцігодзьдзі існаваньня БССР і пазьнейшы разгром беларсукага нацыянальнага руху абодвымі акупантамі з Усходу і з Захаду.

На фактах гісторыі апошніх дзесяцігодзьдзяў і здушэньня творчага гэнія Беларусі амэрыканскім студэнтам было даведзена, што вольнае разьвіцьцё запраўднае беларускае культуры і навукі магчымае толькі ўва ўмовах поўнага нацыянальнага і дзяржаўнага самавызначэньня Беларусі на шляхох дэмакратыі і роўнасьці народаў.

На пытаньні студэнтаў, якой мусіць быць палітыка ў дачыненьні да праблемаў Усходу і што рабіць практычна, д-р Сядура даў гэткую простую, але зьмястоўную параду:

— Рабіць усё магчымае ў кірунку поўнага вызнаньня правоў Беларусаў і іншых народаў Савецкага Саюзу на іх самавызначэньне, старацца ўплываць на дзейнікі, ад якіх залежыць гэтая палітыка, вырабляць грамадзкую думку ў амэрыканскага народу, выносіць беларускую справу на сьвятло праблемаў міжнароднае вагі.

Пасьля выступу амэрыканскія студэнты дзякавалі д-ру Сядуру за зробленыя дапаўненьні і гэтак патрэбныя высьвятленьні беларускага пытаньня.

З усяго было відаць, што становішча і інтарэсы Беларусі знайшлі сярод амэрыканскіх студэнтаў зразуменьне і зацікаўленьне.

Пасьля вечару-дыскусыі ўсе дакладчыкі былі запрошаны студэнтамі на кактэйл-парты, у часе якой завязалася яшчэ цясьнейшая лучнасьць і асабістыя запазнаньні паміж прадстаўнікамі магутнае краіны — сьветача свабоды — і, з другога боку, рэпрэзэнтантамі няўміручых у сваім імкненьні да свабоды, цяпер яшчэ паняволеных народаў.

**Студэнт**

### ШУКАЮЦЬ

АНТОНА БАСАРЫНОВІЧА, які пражываў да 1949 году ў Лютэнзээ (каля Міттэнвальду), шукае сям'я Цэльлер. Весткі слаць на адрас: Anna Zeller, (13 b) Rosenheim, Äussere Münchenerstr. 7. Germany.

# Карытны патрыятызм

## або як Янка перамяніўся на Івана

**ТАКСАМА ФЭЛЬЕТОН**

Хто з былых жыхароў беларускіх лягераў Фогэнштраўс, Міхэльсдорф ці Міттэнвальд ня ведаў Янкі Грушыка? Ня думаю, што знойдуцца такія. Дый як-жа яго ня ведаць? Ён-жа заўсёды і ўсюды быў першы. А які патрыёт! А колькі ён панёс ахвяраў для бацькаўшчыны (паводля ягоных собскіх словаў)! Адным словам Каліноўскі ці Грынявецкі ў параўнаньні зь ім — міньятуры дый годзе.

Але гэта ўсё было ў лягерах, дзе можна было атрымаць пасаду хоць-бы заступніка каменданта, а то і самога магазынера.

Прыехаўшы-ж у ЗША, Янкаў і сьлед прастыў. Ня чуваць яго было ані ў БАЗА ані ў Задзіночаньні Беларускае Моладзі. Ніхто таксама ня чуў, каб Янка ахвяраваў які даляр для суродзічаў у Эўропе. Кальпартэры беларускай прэсы таксама аб ім нічога ня ведалі.

Але «знайшоўся сьлед Тарасоў», — як сказаў нябошчык Гогаль. Вось «Новое Русское Слово» ад 20 сакавіка сёлета зьмясьціла зацемку: «У 18-ым Аддзеле «ROOVA-Heri Ind.». Таму што ў гэтай зацемцы ўспамінаецца пра нашага Янку, падаю яе ў скарачэньні: «У ваддзел, дзякуючы стараньням сп. Куцко, запісалася 5 новых сяброў: Антон, Ганна, Мікалай і Аляксандар Валюшка і Гэлена Грушык (апошняя маці Янкі, а першыя швагер з жонкай і іх дзеці — В.Л.). На сходзе прысутнічаў новы сябра Аддзелу Іван Грушык, які заявіў . . .» і г. д.

Дык вось Янка зрабіўся Іванам і ўступіў у чужацкую арганізацыю, якая на працягу пару дзесяткаў год русыфікуе нашых суродзічаў тут у Амэрыцы, у арганізацыю, дзякуючы якой тут знаходзіцца не адзін дзесятак тысячаў «рускіх» з пад Вялейкі, Маладэчна, Горадні і Менску. Мала што пайшоў сам, але ўцягнуў туды сваю мала сьведамаю матку і сястру, не гаворачы ўжо аб швагру, які ніколі дакладна ня ведаў, хто ён такі.

Якой узнагароды спадзяецца ён за гэты ўчынак ад «старэйшых братоў»? І што можна сказаць на ўсё гэта? Адказ кароткі: ганьба!

**В. Лягерны**

### АДКАЗЫ РЭДАКЦЫІ

**Сп. А. Маханеўскаму ў Мэльбурне:** Справаздача зь сьвяткаваньня 25-га Сакавіка ў Мэльбурне ня можа быць зьмешчаная з прычыны яе спозьненага прысланьня. За іншае дзякуем.

**Сп. Я. М. у Аўстраліі:** «Бацькаўшчына» лётніцкай поштай можа Вам высылацца толькі за спэцыяльную аплату 30 амэр. цэнтаў за эгзэмпляр.

### ДА ЎСІХ НАШЫХ КАЛЬПАРТЭРАЎ І ПАДПІШЧЫКАЎ

**З настунага нумару нашае газэты спыняем індывідуальную высылку ўсім тым падпішчыкам, якія дагэтуль ня ўрэгулявалі за яе залегласьцяў.**

**Таксама спыняем высылку лётніцкай поштай газэты, за выключэньнем сталых супрацоўнікаў «Бацькаўшчыны», усім тым, што дагэтуль не аплацілі лётніцкай перасылкі (30 амэр. цэнтаў за нумар. За падвойны — 60 ц.).**

**Усіх нашых Прадстаўнікоў і Кальпартэраў ветліва, але настойліва просім спыніць высылку газэты з наступнага 20 (151) нумару ўсім тым, што дагэтуль ня ўрэгулявалі за яе належнасьці, а заашчаджаныя такім способам эгзэмпляры выкарыстаць у якасьці пробных нумароў з мэтаю прыдбаньня новых падпішчыкаў.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў грошы за «Бацькаўшчыну», як і за кніжкі, выдадзеныя «Бацькаўшчынай» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на рукі нашага фінансавага прадстаўніка ў Бэльгіі паводля наступнага адрасу:**

**Janka Žučka, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**